Стоп-кадр



Лэцяць пералётныя птушкі.

## Малоимущие без картошки не останутся

Денежную помощь для заготовки сельхозпродукции получат малоимущие жители Витебской области. На эти цели облисполком выделил 12 миллиардов рублей.

Как стало известно корреспонденту БелТА, деньги уже начали поступать в районы, где составлены списки остронуждающихся пенсионеров, инвалидов, многодетных семей. В том случае, если ежемесячный доход не превышает 750 тысяч рублей в месяц на человека, будет оказана единовременная денежная помощь в размере 1 миллиона 200 тысяч рублей. Облисполком рекомендовал также районным властям изыскать дополнительные возможности для оказания нуждающимся помощи в заготовке картофеля и овощей за счет местных бюджетов и средств предприятий, организаций, колхозов и совхозов.

**Ольга СИДОРОВИЧ, БелТА.**

У соседей

## Торговцы протестуют

Как сообщило в БелТА литовское инофрмационное агентство ЭЛЬТА, собравшиеся 14 сентября в Вильнюсе у Дома правительства мелкие рыночные торговцы из разных городов Литвы протестовали против ограничений их торговли. Прибывшая из Мариямполе Нийоле Каволюнене, входящая в число организаторов этой акции, заявила, что после окончания митинга-протеста правительству Сейму и президенту будут вручены требования, главное из которых - приостановить вступление в силу с 1 октября положения об обязательном наличии на торговых местах документов о приобретении промышленных товаров.

**БелТА.**

Паспрачаемся?

**Ад рэдакцыі**

*По праўдзе кажучы, атрымаўшы пісьмо Івана Васілеўскага з Салігорска, мы не мелі намеру яго друкаваць: колькі можна тыражыраваць абразы і адмаўленне найдарожшага дару — роднай мовы, дадзенай беларусам, як і кожнаму народу, ад Бога, — нашай старажытнай і вечна маладой, пяшчотнай і мілай беларускай мовы? Колькі можна супрацьпастаўляць яе рускай — сапраўды вялікай і прыгожай, але — мове суседняга народа? Тым больш што аўтар — наш чытач — пастаянна знаёміцца на старонках "Народнай волі" з матэрыяламі на гэту вострую, актуальную і хвалюючую многіх тэму.*

*Але як раз на гэты момант у рэдакцыю зазірнуў даўні сябра газеты — вядомы дзеяч культуры, навуковец Алег Трусаў. Рускі па нацыянальнасці, але — жыхар Беларусі, ён стаў гарачым прыхільнікам беларускасці, багатай духоўнай спадчыны нашага народа. Алег Анатольевіч прачытаў пісьмо Івана Андрэевіча Васілеўскага — і пагадзіўся яму адказаць.*

*Друкуем гэтыя два лісты і спадзяёмся, што да завочнай размовы чытача "Народнай волі" і яго апанента далучацца іншыя жадаючыя выказаць сваю думку па закранутай праблеме.*

# Народ не хочет разговаривать на этой деревенской, мужицкой мове

Уважаемая редакция газеты "Народная воля"!

Вы на страницах своей газеты периодически печатаете статьи так называемых "аматараў беларускай мовы", которые выступают в ее защиту.

Я белорус, родился и вырос в Белоруссии. Окончил среднюю школу. Когда я учился, а это были 1937—1950 гг. (минус годы оккупации), никто не делил школы на русские и белорусские. Просто учились в школе, а какая она — белорусская или русская — никто и не знал. Изучали белорусскую мову и русский язык. Потом волею судьбы я уехал в Россию и прожил там 30 лет, перешел на русский язык, так как в России на белорусской мове никто не разговаривает, а если бы кто и стал это делать, то его посчитали бы за ненормального человека.

Что такое белорусская мова? Это в основном те же русскоязычные слова, только произносятся иначе, гораздо хуже, чем на русском языке. Например, вместо *уже — ужо, это — гэта, нужно — трэба, совершенно секретно — зусім сакрэтна, комментирую — каментую, цитирую — цытую и т.д.* На фоне русского языка белорусская мова выглядит убого и примитивно. Поэтому и тянутся люди к русскому языку, и никакие ассимилянты здесь ни при чем. Просто народ не хочет разговаривать на этой деревенской, мужицкой мове, когда рядом есть прекрасный, красивый, интеллигентный язык, и изучать его не нужно. Он сам приходит в каждый дом, в каждую семью.

На жизнь нужно смотреть так, какая она есть, а не так, как кому-то хочется. А жизнь такова: 100% городского населения республики говорит на русском языке. Вся молодежь в деревне (где она еще сохранилась) разговаривает на русском. На белорусской мове разговаривают, да и то не чисто, только люди в сельской местности — старшего поколения, малограмотные и малокультурные. Кроме этого, в Беларуси проживает, по словам нашего президента, 2,5 миллиона русских. Это почти треть всего населения республики. Кроме этого, здесь живут украинцы, поляки, евреи и люди других национальностей. Таким образом, для более чем половины населения республики белорусская мова не является родной.

Вот в такой обстановке "аматары беларускай мовы" хотят навязать всему народу сесть за парты и изучать белорусскую мову, да еще чтобы каждый изучил ее досконально. Если такое произойдет, то это взорвет все наше общество. Народ этого не примет.

Борьба за белорусскую мову ее любителями проходит под разными, порой надуманными причинами. Почитаешь их статьи, так волосы дыбом встают. Если, пишут они, мы не будет все говорить на белорусской мове, то Беларусь исчезнет с лица земли, провалится куда-то в преисподнюю. А если мы будем говорить по-белорусски, то люди других стран будут нас уважать, перед нами снимать шляпы и кланяться. Ничего этого не будет, покуда мы будем нищими. Нищих никто не уважает, их, в лучшем случае, жалеют. Уважать нас станут тогда, когда мы станем богатыми. А на какой мове мы будем разговаривать, это другим народам, извините, до лампочки. На какой бы мове мы ни говорили, Беларусь никуда не исчезнет. Она живет в таких условиях уже, пожалуй, не одно столетие, а может, были и худшие времена.

А что касается патриотизма и любви к Родине, то я это испытал на себе. Живя в России, я все 30 лет тосковал по своей милой и родной Беларуси. Она мне снилась почти каждую ночь. Хотя я разговаривал и теперь разговариваю на русском языке. И когда пришло время менять место жительства, вопросов, куда переезжать, для меня не существовало: только на свою родину, в Беларусь, туда, где прошло мое детство и юность, в дорогие моему сердцу места. Теперь я вот уже 18 лет живу в Солигорске.

**Иван Андреевич ВАСИЛЕВСКИЙ,**
**Ваш постоянный подписчик, пенсионер.**

**P.S.** *Без газеты "Народная воля" я не представляю себе жизни.*

г.Солигорск.

# Без беларускай мовы няма Беларусі

Шаноўны Іван Андрээвіч!

Па прапанове рэдакцыі "Народнай волі" — Вашай і маёй любімай газеты — я паспрабую адказаць на Ваш ліст, які цалкам надрукаваны ў сённяшнім нумары.

Адразу скажу: нападкі на беларускую мову ў Беларусі, абраза яе — з'ява не новая і малапаважаная. Не пазбеглі яе і Вы, Іван Андрээвіч, хоць і завяраеце ў сваёй любові да Беларусі. А Беларусь жа і беларуская мова — непадзельныя.

Пачнём з сухіх лічбаў, за якімі заўжды стаяць аб'ектыўныя факты.

Вы лічыце, што прэзідэнт Беларусі мае рацыю, калі называе, што ў Беларусі зараз жыве 2,5 мільёна рускіх. Між тым апошні перапіс насельніцтва нашай краіны ў 1989 годзе сведчыць, што рускіх тады на Беларусі было амаль ў два разы меней — 1342 тысячы чалавек. Наўрад ці гэта лічба зараз павялічылася істотна.

Аднак перапіс высветліў і тое, што 50 тысяч мясцовых рускіх роднай мовай сваёй назвалі беларускую. Не адпавядае рэчаіснасці і другая Ваша лічба — быццам 100 працэнтаў гарадскога насельніцтва размаўляе толькі па-руску.

Дарэчы, сярод тых 50 тысяч — і я, сын валагодскага селяніна і беларускай дзяўчыны, якая нарадзілася ў Чалябінску. Я ж нарадзіўся і вырас у Мсціславе, гадавала мяне беларуская бабуля, і калі прыйшоў у першы клас, то рускай мовы не ведаў, затое добра гаварыў на мсціслаўска-смаленскім (крывіцкім) дыялекце беларускай мовы...

Потым была руская школа, Беларускі дзяржаўны універсітэт у Мінску, дзе ўсе прадметы выкладаліся толькі па-руску, аспірантура, абарона кандыдацкай дысертацыі ў Ленінградзе. І — поўны пераход на беларускую мову ў другой палове васьмідзесятых. Вось ужо больш за дзесяць год уся мая сям'я размаўляе па-беларуску. І робім мы гэта з вялікім задавальненнем і радасцю. Бо карыстаемся цудоўнейшай, прыгажэйшай мовай, якую геній сусветнай паэзіі і наш слынны зямляк Адам Міцкевіч лічыў самай самабытнай і мілагучнай са славянскіх моў...

А зараз крыху канкрэтнай статыстыкі з энцыклапедычнага даведніка "Беларусь" (выданне 1995 года) наконт рускага насельніцтва на Беларусі.

Расійская імперыя, якую Ленін трапна назваў "турмою народаў", канчаткова захапіла Беларусь у самым канцы XVIII стагоддзя. Аднак яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя рускіх на нашай зямлі было толькі 10 тысяч, альбо 0,3 працэнта насельніцтва. У канцы XIX стагоддзя іх стала ўжо 235 тысяч, ці 3,6 працэнта.

Але масавае засяленне Беларусі рускімі адбылося ўжо ў савецкія часы: 1926 год — 384 тысяы (7,7 працэнта); 1959 — 659 тысяч (8,2 працэнта), 1970 — 939 тысяч (10,4 працэнта); 1979 — 1134 тысячы (11,9 працэнта).

Як вы лічыце, чаму людзі з Расіі масава ехалі ў разбураную войнамі Беларусь з шырокіх берагоў Акі і Волгі? Чаму яны мянялі шырокія стэпы і неабдымныя сібірскія прасторы на пінскія балоты, разбітыя і спаленыя Мінск, Віцебск, Магілёў, Брэст? Чаму афіцэры-адстаўнікі замест сваёй Разані ці Тулы масава сяліліся ў Мінску, Барысаве і Гродне? Таму што іх сустракалі і ўладкоўвалі тут найлепшым чынам, наколькі гэта было магчыма.

Мы павінны аддаць належнае большасці з гэтых людзей, што разам з беларусамі адбудоўвалі разбураныя вайной гарады і вёскі, працавалі ў навукова-даследчых установах, ВНУ, былі медыкамі і лётчыкамі, рабочымі і шахцёрамі. Яны нямала добрага і карыснага зрабілі на нашай зямлі, і мы ўдзячны за гэта.

Аднак разам з расіянамі на Беларусь прыйшла да нас не толькі літаратурная руская мова, якой валодалі пераважна інтэлігенты, але і бытавы "савецкі сленг", славуты "рускі мат", а часам і непавага да беларускай мовы і культуры: навошта яе вывучаць, лепш высмяяць, прынізіць і адкінуць, як непатрэбную. Не пазбеглі гэтага "віруса" і Вы, Іван Андрэевіч.

Між тым варта нагадаць, што калісьці ў падобным становішчы Папялушкі была і сама руская мова. Не ўсе ведаюць, як змагаўся за рускую мову Міхайла Ламаносаў у XVIII стагоддзі. У тагачаснай рускай Акадэміі навук, дзе працавалі адны немцы, рускую мову зневажалі як "мужыцкую, халопскую". Ды і напачатку XIX стагоддзя амаль уся руская знаць размаўляла ў асноўным па-французску (па-руску — толькі са слугамі ды мужыкамі). Нават будучы стваральнік літаратурнай рускай мовы Аляксандр Пушкін свае першыя вершы пісаў па-французску. А калі выдаў сваю бліскучую паэму "Руслан і Людміла", яго сталі бэсціць за "мужыцкі дух", які абражае "тонкі" арыстакратычны густ...

Але вернемся бліжэй да сучаснасці.

...Прыезжыя з Расіі ў Беларусі занялі большасць кіруючых пасад у партыйным і савецкім апараце, войску, міліцыі, КДБ, школах, ВНУ і навукова-даследчых інстытутах. На жаль, яны нярэдка паводзілі сябе тут, як калісь немцы і французы ў Расіі. Навошта ім і іх дзецям "тлуміць мазгі": вывучаць беларускую, мясцовую мову? Мала таго — няхай і ўсе тутэйшыя жыхары, карэнныя беларусы, а таксама палякі, украінцы, татары, яўрэі вывучаюць толькі адну рускую мову.

І кіраўніцтва СССР і рэспублікі цвёрда трымалася гэтай бязглуздай лініі. Вось яскравы прыклад. Мікіта Хрушчоў, будучы ў Мінску, стоячы на ганку Беларускага дзяржаўнага універсітэта, заявіў, што беларусы першымі пабудуюць камунізм, бо першыя цалкам пяройдуць на рускую мову. Таму і зачыняліся беларускія ВНУ і школы, а тых, хто быў не згодзен з гэтым, у лепшым выпадку выкідвалі з работы. А ў 30-я гады сотні і тысячы беларусаў толькі за прыхільнасць да роднай мовы былі расстраляны ў Курапатах ці сасланы на Калыму і іншыя не менш страшныя месцы. Сярод першых такіх бязвінных ахвяр — беларускія акадэмікі Вацлаў Ластоўскі і Язэп Лёсік, мастацтвазнаўца Мікола Шчакаціхін, пісьменнікі Максім Гарэцкі і Уладзімір Дубоўка, многія-многія іншыя, кім павінны былі б ганарыцца і ўсім мірам шанаваць, а не зводзіць у магілу за любоў да мовы сваіх продкаў.

Я запрашаю Вас, шаноўны Іван Андрэевіч, прыехаць у Мінск і пагаварыць з вучнямі і бацькамі адзінага на Беларусі беларускага ліцэя, якія ўжо два гады змагаюцца з адміністрацыяй прэзідэнта за тое, каб вучыцца па-беларуску. Прыйдзіце на любы мітынг апазіцыі, і Вы пачуеце, як прыгожа і ўзнёсла размаўляюць па-беларуску сотні маладых хлопцаў і дзяўчат. Альбо зайдзіце ў Салігорскую ці іншую якую бібліятэку, дзе паважаюць таленавітых майстроў беларускага слова, і прачытайце хаця б "Мёртвым не баліць" Васіля Быкава, "Ладдзю роспачы" Уладзіміра Караткевіча, вершы Барадуліна, Разанава, Бураўкіна, кнігі іншых цудоўных пісьменнікаў. Няўжо Вы не адчуеце іх пранікнёнасць, вобразнасць, прыгажосць?

А яшчэ я Вам раіў бы выпісаць газету Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны "Наша Слова". Там, спадзяюся, Вы знойдзеце адказы на многія Вашыя пытанні і развагі. У тым ліку і аб тым, ці звязаны моўныя праблемы з эканамічнымі. І ці паважаюць у свеце тых, хто не паважае сам сябе, адмаўляючыся ад уласнага, нацыянальнага. Магчыма, што з цягам часу Вы ў нечым зменіце свае адносіны да беларускай мовы.

Мову, як і маці, ніхто не выбірае. А знявага роднай маці — найцяжэйшае злачынства ў свеце. Вы пішаце аб "любви к родине, милой родной Беларуси". Але ж няма Беларусі без беларускай мовы — душы народа! Без яе — не Радзіма, не краіна, а ўсяго толькі абездухоўленая "тэрыторыя". Ці ж можна любіць "тэрыторыю"? Падумайце над гэтым.

Жадаю Вам, сталаму падпісчыку "Народнай волі", моцнага здароўя і доўгага жыцця. Спадзяюся, што мы з Вамі дачакаемся перамогі дэмакратыі і свабоды ў нашай краіне, а значыць, разам з народным дабрабытам — і росквіту беларускай мовы і культуры на нашай святой зямлі. Менавіта за гэта так актыўна змагаецца "Народная воля".

З павагай —

**Алег ТРУСАЎ,**
**першы намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, кандыдат гістарычных навук.**

Письма в тюрьму

# Андрею Климову — 33!

*Сегодня, 17 сентября 1998 года, у парламентария-узника Андрея Климова день рождения. Ему — 33! Мы публикуем поздравления, направленные на имя этого несгибаемого депутата.*

**Дорогой мой единственный сыночек!**

Поздравляю тебя с днем рождения, с днем твоего 33-летия. В этом возрасте обрекли на муки нашего Христа Спасителя...

Такой вот нам, сынок, выпал "праздник". Много горьких слов я могла бы сказать сегодня о твоих страданиях в заключении и о муках изболевшегося за свое дитя материнского сердца. В пору испытаний давай, родной, лучше вспомним, как мы жили и умели выстоять перед невзгодами. Ты с малолетства знаешь, какую борьбу за выживание мы с тобой вели. Я пережила лихолетье войны, после войны умерла моя мама, я росла круглой сиротой в голоде и холоде, здоровье свое подорвала. Мне даже не разрешали тебя рожать. Врачи говорили: или умрете, или инвалидом станете, возьмите ребенка из детдома.

Но Богу было угодно, чтобы у меня появился родной человек — ты.

Вся моя зарплата уходила на лекарства, а на питание подрабатывали как могли; чтобы покупать одежду, брали квартирантов, а сами спали в кухне на полу, но не кричали на весь мир, что мы нищие. Считали, что пока есть у человека хоть немного сил, руки-ноги и мозгов больше, чем у курицы, он может и должен преодолевать тяготы, а не жаловаться.

А сколько мы могли бы вместе хорошего и достойного вспомнить о твоей учебе, о работе, о том времени, когда ты открывал свою строительную фирму! Хочу сказать тебе, Андрей, в такой день: я всегда гордилась тобой!

Я, мать, а также твоя жена и дети очень любим тебя. Держись, сын! У тебя много друзей, даже больше, чем было до заключения в тюрьму. Как и твоя семья, все они поддерживают тебя и за тебя борются.

**Твой самый надежный человек — твоя мама.**

17 сентября 1998 года.



*Андрей Климов летом 1996 года. Ему едва за тридцать. Солнце, воля, маленькая дочка, и, казалось, лучшее впереди...*

***Депутату Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва Андрею Евгеньевичу Климову***

Президиум Верховного Совета Республики Беларусь поздравляет Вас, Андрей Евгеньевич, с 33-летием!

Так уж принято, что для мужчин эта дата является своего рода неким мерилом пройденного жизненного пути. А пройдено и сделано немало.

Работая в Верховном Совете Республики Беларусь, Вы никогда не прятались за спины других, оставаясь всегда честным и открытым для соратников. Несмотря на давление, оказываемое на Вас со стороны правящего режима в канун так называемого референдума (ноябрь 1996 года), Вы остались до конца принципиальным и верным Конституции Республики Беларусь 1994 года.

Сегодня, когда в нарушение конституционных норм и международного права Вы находитесь в тюремных застенках, мы желаем Вам здоровья, мужества, стойкости. Уверены, что Правда и Закон рано или поздно восторжествуют, и те, кто потворствует беззаконию и произволу, будут отвечать перед народом за содеянное.

**Председатель Верховного Совета Республики Беларусь С.Шарецкий.**

* * *

Андрей!

Мы поздравляем тебя с днем рождения!

Свое 33-летие ты встречаешь в тюрьме, куда тебя упрятали власти за несогласие с нынешним режимом. Мы знаем тебя как искреннего оратора на трибуне Верховного Совета, как строителя, чьи здания украшают Минск.

Нам трудно представить тебя, Андрей, в тюремной одежде и в тюремном окружении. Но трудные времена проходят. Мы желаем тебе мужества и стойкости, здоровья и спокойствия, надежды и веры. Мы, твои друзья, с тобой. Мы продолжаем бороться за твою свободу.

**Хартия'97.**

* * *

Андрэй!

Шчыра віншую цябе, дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання, з 33-м днём нараджэння, які ты сустракаеш у турэмных спратах лукашэнкаўскага рэжыму. Жадаю мужнасці і нязломнай стойкасці ў змаганні за прававую і незалежную Беларусь.

**Ад кіраўніцтва БНФ "Адраджэнне" Л.Баршчэўскі.**

* * *

*Андрей Евгеньевич!*
*Вы родились в прекрасный миг,*
*Когда природа увядает,*
*Солнце тело расслабляет*
*И камеру надеждой наполняет.*
*Но час свободы к Вам придет.*
*И муки ада пеплом станут.*
*Вас люди президентом изберут,*
*а народ богаче станет.*
*Олигархия, как тот цветок,*
*увянет.*
*Осенний листик к Климову*
*заглянет,*
*Потаенным другом станет,*
*дух укрепит*
*и с днем рождения поздравит.*

**Валентина Иосифовна Волчицкая (г.Минск).**

* * *

Андрэй!

Шчыра віншуем цябе з 33-годдзем, якое, на вялікі жаль, ты вымушаны спаткаць за кратамі. Мы верым у цябе! Трымайся! Вер, што ў хуткім часе мы пераможам. Усе шчырыя патрыёты Беларусі змагаюцца за цябе. Ведай, што мы цябе не забылі і што наступны дзень нараджэння ты сустрэнеш разам з намі.

Разам мы пераможам! Жыве Беларусь!

**Спартыўны аддзел "Маладога Фронту"**

* * *

Андрей!

Поздравляю тебя с днем рождения! В ситуации, в которой оказались ты и мой муж, твой коллега по Верховному Совету Владимир Кудинов, важнее всего сохранить здоровье. Поэтому здоровья тебе, терпения, оптимизма!

Мы, жены, не предадим вас. Будем бороться за вас, за наше счастье, за спокойное будущее наших детей. С верой в то, что эта черная полоса не только для нас, но и для всей республики останется позади. И мы, дай Бог, в скором будущем о беззаконии, насилии, терроре, попрании прав человека, характерном для этого режима, будем только вспоминать.

Я верю, что будущее за нами и нашими детьми.

**Зоя Кудинова, жена осужденного депутата Верховного Совета 13-го созыва Владимира Кудинова, г.Ивацевичи.**

* * *

Андрей Евгеньевич!

Восьмой месяц ты томишься в следственном изоляторе. Свой очередной день встречаешь без родных, близких и друзей. В свои 33 года ты сделал столько, сколько другим не выпадает сделать за всю жизнь. Ты торопился жить: строил дома, помогал нуждающтимся, издавал газету... Тебя отличают мужество и умение хранить свое человеческое достоинтсов. Ты был и остаешься примером для каждого из нас.

Андрей! В твой день рождения коллеги по партии желают тебе скорейшего освобождения, оптимизма и крепкого здоровья.

Мы верим в твою невиновность и всегда будем рядом с тобой.

**Политсовет Объединенной гражданской партии.**

*Все, кто также пожелает передать депутату приветствие по случаю дня рождения Андрея Климова, наказы и пожелания, могут сделать это на пикете. Проводится данная акция в четверг, 17 сентября 1998 года, в сквере на пересечении улиц Городской Вал и Немига. Там будут мать, жена, дети узника, придут коллеги-парламентарии и друзья столь мужественного человека.*

*Пикетирование проводится с 17.00 до 19.00.*

*Санкция Мингорисполкома на выражение протеста против содержания под стражей депутата Андрея Климова и поздравление его с днем рождения имеется.*

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

Жыццё як яно ёсць

## Апладысменты ў аванс і пад "адабрамс"

Зала Палаца культуры, дзе вось-вось павінен быў пачацца двухдзённы рэспубліканскі тэлефестываль "Залатыя ключы", прыціхла ў чаканні выхаду на сцэну вядучых праграмы. Канцэрт хвілін на пятнаццаць затрымліваўся з-за пэўнай негатоўнасці телевізіёншчыкаў. І тут з-за кулісаў выбегла маладая жанчына з мікрафончыкам у руцэ і аб'явіла:

— Сначала мы с вами дружно поаплодируем — для записи вашего одобрения концерта впрок. И так — начали! Подружнее!

Запоўненая да адказу зала (каля 400 гледачоў) узарвалася пошчакам апладысментаў.

— Еще раз и подружнее — с поднятыми над головами руками! — скамандавала жанчына. — Вы потом, когда запись концерта выйдет в эфир, сможете увидеть себя на телеэкране. Дружно!

Зноў і зноў — сем разоў запар! — зала паслухмяна біла ў ладкі. Не менш дзесяці мінут. І калі ўжо, здавалася, былі пяройдзены нормы здаровага сэнсу гэтага апладыравання "впрок", жанчына, пасля кароткай паўзы, зноў выбегла на сцэну.

— И еще разок дружно похлопаем!

Ёй не адмовілі, праўда, пажылыя людзі, а іх было няшмат у зале, устрымаліся ад рукапляскання. А моладзь, здавалася, гатовая была біць у ладкі і далей.

Потым на сцэну выйшла абаяльная і тактоўная вядучая канцэрта і на беларускай мове "павяла" вечар. Канцэрт быў цудоўны, у ім прынялі ўдзел многія мастацкія калектывы з усіх канцоў рэспублікі.

Пра тую зацяжную "разминку" телевізіёншчыкаў з рукаплесканнем можна было б і не ўспамінаць, калі б на памяць не набегла другая падобная сцэнка масавага "адабрамса".

У той жа зале, у сярэдзіне лета выступаў славуты Кубанскі казацкі хор, які наведаў Слуцк. Білеты былі раскуплены за тыдзень да іх прыезду. Дзве гадзіны працягваўся канцэрт, які прынёс шмат радасці ад непаўторных "агнявых" казацкіх песень і танцаў.

На жаль, настрой многім гледачам крыху сапсаваў мужчына невялікага росту, у шэрым пінжаку, якога вядучыя прадставілі як адміністратара хору. А павёў ён гамонку па сцэнарыі небезвядомых расійскіх нацыянал-патрыётаў. Чамусьці прамоўца запрарочыў Расіі "новое Куликово поле", маўляў, зноў трэба славянам збірацца на ім, каб "дать бой оккупантам и предателям России", "освободить ее от нового Хан-Батыя". А пад канец напомніў сядзеўшым у зале жахарам Слуцка, што для гэтага трэба аб'яднацца Расіі, Украіне і Беларусі. Гаварыў эмацыянальна напорыста — у стылі Ампілава і Баркашова. І думаеце, зала абсвістала іх агітатара з Кубані? Нічога падобнага! Зала адказала дружнымі апладысментамі, не меней гарачымі, чым на выступленні таленавітых танцораў і спевакоў.

Божа, як увайшла у плоць і кроў нашых людзей шматгадовая практыка ўсеагульнага "адабрамса" — ці то на выбарах дэпутатаў у Вярхоўны Савет, ці то на прэзідэнцкіх рэферэндумах! Няўжо мы не навучымся паважаць сябе як нацыя, разлічаць, дзе сапраўднае зерне, а дзе — шалупінне з чужога агароду?

**Мікола КУТНЯВЕЦКІ.**

Закулисье

## Уникальная карьера: из министров — в обслугу

Бывший министр спорта и туризма Беларуси Владимир Макейчик наконец-то нашел работу. Он стал помощником у Владимира Коноплева — заместителя председателя Палаты представителей так называемого Национального собрания.

Полгода экс-министр числился безработным. Сначала, после бурного разноса, устроенного ему президентом Александром Лукашенко в присутствии многочисленных сотрудников спортивного ведомства, Владимира Иосифовича подкосила болезнь. Потом, после выхода из больницы, даже бывшие друзья и товарищи остерегались брать под свое крыло опального чиновника. И потому Макейчику пришлось, расставшись со своим прекрасным кабинетом, пообивать пороги чужих.

Помогла дружба с другом детства президента Владимиром Коноплевым. Два Володи раньше нередко вместе играли в футбол. А поскольку Макейчик в свое время заканчивал Институт физкультуры и специализировался в хоккее, то теперь, возможно, тезки будут гонять вместе шайбу. Футбольная команда правительства и парламента уже существует. Если к Макейчику и Коноплеву добавить еще и президента Лукашенко, который также большой любитель хоккея, — вот вам и ударная первая тройка. Правда, хоккей конечно же не футбол. Здесь невзначай могут и тумаков надавать. Только осмелится ли кто-нибудь применять силовые приемы против таких необычных форвардов?

**Владимир КОТ.**

Творчасць чытачоў

Паважаная газета "Народная воля"! Дасылаю вам свой новы верш. Не ведаю, надрукуеце яго ці не. Але ў ім я выліў сваю душу. Топчацца і гіне беларуская мова. Як яе абараніць?

Я чытаю вашу газету, паважаю і цаню. Яна мяне натхняе. Ёю я жыву.

**Васіль ГАЙДА.**

Гродна.

### Беларуская зямля

*Што сталася з табой, зямля?*
*Ты плачаш, нібы немаўля,*
*Якое без нагляду ў хаце*
*Пакінула ў калысцы маці.*

*Няма каму з ім размаўляць*
*І роднай мове навучаць,*
*Нібыта ёй няма цаны*
*І не было ў нас Скарыны.*

*Што сталася з табой, Зямля!*
*Ты плачаш, нібы немаўля.*
*Калі ж, матуля, ты ізноў*
*Патурыш з хаты груганоў?*

## Міністр эканомікі Уладзімір Шымаў прызнаў непрымальнасць сітуацыі, калі 70 працэнтаў знешнегандлёвага абароту Беларусі прыпадае на Расію

Міністр эканомікі Беларусі Уладзімір Шымаў прызнаў непрымальнасць сітуацыі, калі 70 працэнтаў знешнегандлёвага абароту краіны "замкнута на Расію". Ён звярнуў увагу на недастаткова асвоены беларускімі вытворцамі вялікі рынак Украіны, краін Усходняй Еўропы, Афрыкі, Азіі, лічачы неабходным дакладна вывучаць яго і праводзіць мэтанакіраваную палітыку для пашырэння ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

Як паведаміў У.Шымаў, для павышэння канкурэнтаздольнасці айчынных тавараў на сусветным рынку ўрад уводзіць новы механізм вызначэння экспартнай цаны — "значна больш ільготны для экспарцёраў". Цяпер гэтая цана можа вызначацца суб'ектам гаспадарання, зыходзячы з яго фінансавага становішча і кан'юнктуры цэн на асноўных рынках збыту.

Нагадаем, што дагэтуль экспартная цана вызначалася на аснове ўнутранай з пералікам у валюту па курсе Нацыянальнага банка.

А паколькі, па словах міністра, гэты курс — завышаны, цэны атрымліваліся вельмі высокімі, што рабіла тавары неліквіднымі на знешніх рынках. На думку Уладзіміра Шымава, крызісы маюць "адзін станоўчы зарад — мабілізуюць унутраныя рэсурсы і рэзервы дзяржавы, сістэмы кіравання, суб'ектаў гаспадарання".

**Юрый КУЗНЯЦОЎ, БелаПАН.**

Демократия по-белорусски

## Ответа от властей профсоюзы так и не получили

Республиканские комитеты профсоюзов, объединяющих работников промышленных отраслей народного хозяйства страны, выступили с совместным заявлением по поводу игнорирования властями требований участников июльского митинга трудящихся, который прошел в Минске.

"Ответа от властей мы так и не получили, — заявил на встрече с журналистами председатель республиканского комитета профсоюза металлистов Иван Колесник. — Складывается впечатление, что предложения трудящихся по разрешению социальных и экономических проблем предприятий и трудовых коллективов, а также по улучшению материального положения населения страны никого не волнуют".

Профсоюзы расценили такое отношение к требованиям трудящихся как несоответствующее нормам Конституции и закону "Об обращениях граждан" и подчеркнули это в своем заявлении.

**Валентина МЕНЬШИКОВА, БелТА.**

